



*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 599 Красавік - Травень, 2013 г. Год выданьня 64

## Шаноўныя чытачы!

Сустракаемся з вамі пасьля вымушанага перапынку. Па тэхнічных прычынах быў затрыманы выпуск красавіцкага нумара нашай газэты, таму давялося аб'яднаць яго з травеньскім, і гэты здвоены нумар зараз прапануем вашай увазе. Гэтыя два вясновыя месяцы былі багатымі на розныя падзеі: праваслаўны Вялікдзень і Раданіца, Чарнобыльская гадавіна, сустрэча беларусаў краінаў Балтыі, акцыі пратэсту і шмат іншага.

Становішча на нашай Бацькаўшчыне не мяняецца да лепшага. Дыктатарская ўлада працягвае крок за крокам інтэграцыю з Расеяю, дайшло да таго, што ў Беларусі будзе разьмешчана расейская авіяцыйная база. Палітычныя вязьні знаходзяцца за кратамі, Дэпартамэнт ЗША ізноў крытычна ацаніў сытуацыю з абаронай правоў грамадзянаў у Беларусі. Разьяднанае беларускае грамадзтва ня ў стане аказаць дзейсны супраціў дыктатуры.

У беларускім замежжы таксама няма адзінства. Ва ўмовах міжнароднай ізаляцыі ўладныя структуры Беларусі робяць захады, каб прыцягнуць эміграцыю да супрацоўніцтва, стварыць падкантрольныя ім беларускія суполкі, якія пойдуць на кантакты з рэжымам. З гэтай мэтаю з боку уладаў апошнім часам актывізавалася праца па падрыхтоўцы праекта Закона пра замежных беларусаў. Варта чакаць, што ўлады будуць імкнуцца скарыстаць у сваіх мэтах і чарговы зьезд беларусаў сьвету, які рыхтуе Згуртаваньне "Бацькаўшчына" сёлета ў ліпені. Але будзем спадзявацца, што беларуская дыяспара зойме прынцыповую пазыцыю, скіраваную на падтрымку правядзеньня незалежнага зьезду беларусаў сьвету і прыняцьця закона, які будзе абараняць правы ўсіх замежных беларусаў, а ня толькі тых, хто будзе згодны супрацоўнічаць з уладнымі структурамі.

Просім нашых чытачоў зьвярнуць увагу на новую рубрыку "Ліст у рэдакцыю". Запрашаем вас да больш цеснага і актыўнага супрацоўніцтва. "Беларус" – найперш, вашая газэта, і вашыя галасы павінны гучаць больш шырока на яе старонках. Гэта вашая трыбуна, ваш дарадца і сябра, зь якім вы можаце дзяліцца думкамі, развагамі, прапановамі. Дарэчы, хацелася б атрымаць вашыя прапановы ў згаданы вышэй праект Закона пра замежных беларусаў. Гэтую тэму мы можам абмеркаваць у газэце і даслаць свае дапаўненьні ў закон.

Дзякуем усім нашым карэспандэнтам, хто даслаў свае інфармацыі ў гэты нумар газэты, спадзяемся, што вам будзе прыемна пабачыць тут вашыя імёны.

Шчыра дзякуем і нашым ахвярадаўцам, якія даслалі грошы на падтрымку выданьня газэты. Нялёгка даюцца заробкі на чужыне, і вы не пашкадавалі частку зь іх даслаць на агульную і важную беларускую справу. Так будзе жыць Беларусь у замежжы!

*Рэдакцыя*

## Будаваць сваё, а не пераймаць чужое

### *Велікодны зварот першаярарха Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы архіяпіскапа Сьвятаслава Логіна*

*«... ідзеце, навучайце ўсе народы ...» (Мц. 28:19)*

Дарагія браты й сёстры ў Хрысьце!

Сардэчна віншую вас з найбольшым сьвятам – Уваскрасеньнем Хрыстовым! Найвялікшае яно таму, што ў ім сьвяткуецца перамога над сьмерцю цялеснай і духоўнай, што ёсьць сутнасьцю хрысьціянскае веры. Таму ў народзе гэтае сьвята атрымала назоў – Вялікдзень.

Хутка, па Ўваскрасеньні, вучэньне Хрыста пачало разносіцца па сьвеце, бо апосталы, паводле волі Божае, прапаведвалі яго розным народам на родных ім мовах. Беларускі народ, болей за тысячу гадоў таму прыняўшы хрысьціянскае вучэньне, будаваў велічныя храмы, адзін з найпершых у сьвеце надрукаваў Біблію на роднай мове. А нашыя Беларускія Сьвятыя ёсьць ня толькі гонарам Беларускае нацыі, а й заступнікамі й хадайнікамі перад Госпадам за свой народ і за Беларускую дзяржаву.

Дзякуючы духоўным скарбам, такім як беларуская мова й культура, дадзенымі Богам і атрыманымі намі ад нашых продкаў, мы можам найлепей разумець і выяўляць хрысьціянскую веру паводле сваіх нацыянальных асаблівасьцяў і традыцыяў. Таму гэтыя нацыянальныя скарбы мы павінны захоўваць і перадаваць нашчадкам таксама, як і самое хрысьціянства, і на іхных падмурках павінны будаваць сваю нацыянальную будучыню, дзяржаўнасьць і Царкву, а не пераймаць чужое ва ўсходніх ці заходніх суседзяў.

Жадаю ўсяму пабожнаму Беларускаму Народу, што жыве на Бацькаўшчыне й на чужыне, і надалей годна несьці сьцяг Хрыста, і каб беларусы штогод радасна віншавалі адзін аднаго: Хрыстос Уваскрос! – Сапраўды Ўваскрос!

*Зь любасьцю й малітвамі,*
*Архіяпіскап Сьвятаслаў, Першаярарх БАПЦ*

## Вялікдзень у Нью-Ёрку



У Велікодную ноч сёлета вокны нашага Катэдральнага Сабору БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага сьвяціліся ўрачыстым сьвятлом, як і ва ўсіх праваслаўных храмах Нью-Ёрка. Нельга сказаць, што царкоўная заля была перапоўненая, але прыйшло даволі шмат людзей. Кожны нёс велікодныя прысмакі для асьвячэньня і адмыслова пастаўлены для іх стол быў застаўлены ўпрыгожанымі вышыванкамі і карункамі традыцыйнымі кошыкамі.

Сьвяточную службу вёў а. Міхайла – украінскі сьвятар, які адмыслова прыехаў з Дэтройту. Пасьля багаслужбы і асьвячэньня кошыкаў усе прысутныя разгавеліся за агульным сталом і правялі разам гэтыя першыя ўрачыстыя сьвяточныя гадзіны пад воклічы "Хрыстос Уваскрос! Сапраўды Уваскрос!"

# Чарнобыльскі Шлях-2013

## Менск

Традыцыйны «Чарнобыльскі Шлях» прайшоў сёлета ў Менску даволі брутальна.

Напярэдадні акцыі адбыліся масавыя арышты актывістаў экалягічнага руху, якія выступаюць супраць будаўніцтва АЭС. Некалькі эколягаў былі заблякаваныя ў кватэрах і не змаглі прыйсьці на акцыю. Удзень у горадзе Астраўцы Гарадзенскай вобласці, дзе будуецца АЭС, пасьпелі двойчы затрымаць лідара Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзьку і некалькіх журналістаў, што паехалі з палітыкам рабіць рэпартажы.

Ля Савецкага РУУС, куды прывезьлі частку затрыманых, заарыштавалі праваабаронцу Вячаслава Дашкевіча. Пасля «Чарнобыльскага шляху» быў жорстка зьбіты да крыві сілавікамі ў цывільным актывіст анархісцкага руху Ігар Труханові̇ч.

Журналісткі, якія здымалі зьбіцьцё маладзёна, таксама трапілі ў пастарунак. Затрыманьні доўжыліся на мітынгу на плошчы Бангалор.

Пры гэтым варта адзначыць, што сёлета акцыя «Чарнобыльскі Шлях» была дазволеная Менгарвыканкамам. Удзельнікі шэсьця не парушылі ніякіх законаў.



## Беларусы Канады адзначылі 27-ю гадавіну аварыі на Чарнобыльскай АЭС


*Выступае Ягор Фядзюшын*

У Беларускім грамадзка-рэлігійным Цэнтры Таронта 29 красавіка беларусы Канады адзначылі чарговую гадавіну аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Старшыня Згуртаваньня беларусаў Канады Валянціна Шаўчэнка ўзгадала пра вялікую дапамогу, якую аказалі сваёй Радзіме эмігранты праз заснаваны Івонкай Сурвіллай, Зінаідай Гімпелевіч і Паўлінай Пашкевіч–Смітс Канадыйскі Фонд Дапамогі ахвярам Чарнобылю. На Беларусь былі адпраўлены на мільёны даляраў лекі і адзеньне, у Канаду штогод на аздараўленьне прыяжджалі хворыя дзеці. Усім здавалася ў першыя гады пасьля аварыі, што “мірны атам” ніколі больш не прыйдзе ў Беларусь.

Але будаўніцтва Астравецкай АЭС паказвае, што сёньняшняе кіраўніцтва краіны не зрабіла ніякіх высноваў з гэтай вялізнай трагедыі нашага народа. Пра гэта гаварыў у сваім выступленьні фізік-ядзершчык, сустаршыня камітэту “Вучоныя за бяз’ядзерную Беларусь” Ягор Фядзюшын, які 32 гады адпрацаваў у Інстытуце ядзернай энэргетыкі ў Соснах. Яго даклад, заснаваны на ўласным вопыце пошукаў і вынаходніцтваў, а затым і адмаўленьня перспэктываў ядзернай энэргетыкі па сучасных тэхналогіях, быў зь вялікай цікавасьцю праслуханы прысутнымі.




## Чарнобыльская імпрэза ў Нью-Ёрку

Гадавіну чарнобыльскай трагедыі беларусы Нью-Ёрку адзначылі памятнаю імпрэзаю 28 красавіка ў грамадзкай залі на Атлянтык Авэню 401. Кожны з прысутных у гэтыя хвіліны згадваў пра тое, як чарнобыльская бяда закранула яго асабіста ці ягоную сям’ю. Сп. Зянон Пазьняк нагадаў пра тое змаганьне, якое мусілі распачаць патрыятычныя сілы ў Беларусі, каб данесьці да насельніцтва краіны і цэлага сьвету праўду пра наступствы катастрофы. Аднак галоўнаю тэмаю ягонага зьмястоўнага выступу была новая праблема, якая створаная злачыннымі уладамі ў Беларусі, што задумалі пабудаваць новую атамную станцыю ў Астраўцы. Сп. Пазьняк пераканаўча паказаў, якую страшную бяду нясе гэта для беларускай нацыі і яе будучыні. Быў паказаны фільм пра Чарнобыль, пра злачынную палітыку савецкіх уладаў у адносінах да Беларусі .

Доктар Андрэй Бандарчук распавёў пра тое, як узьдзейнічае радыяцыя на арганізм чалавека і якія наступствы для здароўя могуць быць ад яе. Таксама пра стан здароўя насельніцтва Беларусі пасьля Чарнобыля.

*Ганна Сурмач*

## Чарнобыльскі шлях: развагі на тэму

26 красавіка 1986 года на тэрыторыі Украіны, паблізу мяжы з Беларусьсю, у горадзе Прыпяць, адбылося найстрашнейшае здарэньне, наступствы якога не пакінулі абыякавым практычна ніводнага жыхара Беларусі. Але час ідзе і застаецца ўсё менш тых, хто ўспамінае пра падзеі дваццацісямігадовай даўніны ў паўсядзённым жыцьці. Людзі, якіх трагедыя засьпела зьнянацку, старэюць; многіх ужо няма ў жывых; некаторыя разьехаліся па розных кутках сьвету, а нехта стараецца не ўспамінаць тыя жудасныя моманты з гісторыі сваёй краіны. Распавядаць праўду становіцца няма каму. А тут яшчэ і ўрад, які так і наровіць схаваць сапраўдныя факты наступстваў трагедыі ад маладога пакаленьня. Але зьнішчыць да тла гісторыю немагчыма. Ёсьць людзі, якім не ўсё роўна і якія ўшаноўваюць памяць і нясуць яе ў масы.

Але ёсць і тыя, хто на гэтай памяці хочуць набіць сабе кішэню, атрымаць сваю асабістую выгаду. Зьнешні дзярждоўг Беларусі ўжо пераваліў за 12 міліярдаў даляраў і працягвае расьці. Грошай у дзяржаве не прыбаўляецца, а Лукашэнка толькі і трубіць аб нейкім павышэньні заробкаў і узроўні жыцьця. Эканоміку патрэбна паднімаць, а як? Бо калі так будзе і далей, то сытуацыя стане настолькі крытычнай, што ўсе жыхары Беларусі будуць у даўгу перад усім сьветам. І які выхад знайшоў Лукашэнка? Правільна! Падвоіць свой доўг, узяўшы ў суседзяў яшчэ 9 мільярдаў, а менавіта столькі каштуе (па папярэдніх падліках) будаўніцтва новай АЭС. І гэтую суму, канечне, патрэбна яшчэ павялічыць, так як нашы чыноўнікі сумленна будаваць нічога ня ўмеюць. І што мы маем ў выніку...

АЭС будуецца у краіне з насельніцтвам 10 мільёнаў. Увесь свет, хто хутчэй, хто павольней, усьвядоміў небясьпеку ядзернай энэргіі і спрабуе яе пазьбягаць. Прырода непрадказальная, а ад людзей яшчэ болей ня ведаеш, чаго чакаць. Чаго там утойваць, нашы будаўнікі не навучыліся дамы якасна будаваць, а замахнуліся на цуд. У выніку мы атрымоўваем бомбу запаволенага дзеяньня, якая ў любы момант можа выбухнуць, як ужо сталася ў Чарнобылі.

І людзі гэта разумеюць, яны зусім не абыякавыя. Па ўсім сьвеце 26 красавіка беларусы выйшлі на вуліцы, каб паказаць свой пратэст, каб выказаць свой пункт погляду. У сталіцы Беларусі прайшоў штогадовы мітынг “Чарнобыльскі шлях”. Мы, група маладых актывістаў з Філядэлфіі ў ЗША, таксама не змаглі абысьці бокам гэту дату і выйшлі з плякатамі на вуліцу, каб падтрымаць тых, хто змагаецца і каму не ўсё роўна. Памяць яшчэ жыве, і мы будзем за яе змагацца!

*Натальля Лукашэня,*
*Філядэлфія*

# Пятая канфэрэнцыя беларусаў Балтыі і замежжа

6-7 красавіка 2013 г. у Вільні праходзіла Пятая канфэрэнцыя Беларусаў Балтыі і замежжа, у якой бралі ўдзел прадстаўнікі Літвы, Латвіі, Эстоніі, Чэхіі і Беларусі. Арганізавала і правяло канфэрэнцыю кіраўніцтва Таварыства беларускай культуры ў Літве.

Сёньня, як ніколі, востра стаіць праблема ня толькі страты незалежнасьці Рэспублікай Беларусь, але і праблема зьнікнення саміх беларусаў. На жаль, беларуская нацыя апынулася ў такім становішчы, калі кіруючая акупацыйная ўлада зацікаўленая як мага ў найхутчэйшым зьнікненьні беларускай нацыі, аб чым яскарава сьведчыць нахабная і адкрытая русіфікацыя. У сучасны момант яна набыла такія маштабы, якіх не было нават за часамі расейскай імперыі і антычалавечага камуністычнага рэжыму, калі беларускасьць ня толькі мэтанакіравана выводзіцца з грамадзкага ўжытку, але афіцыйнымі ўладамі зводзіцца да маргінальнай і антыграмадзкай зьявы. У Беларусі дажыліся да таго, што размаўляць па-беларуску стала нават злачынна. З аднаго боку мы маем сваю дзяржаву, але зь іншага – яна цалкам антыбеларуская. І гэта прыводзіць да таго, што беларуская нацыя асімілюецца як на сваёй этнічнай радзіме, так і ў іншых краінах пражываньня. Замежныя беларусы забытыя сваёй этнічнай бацькаўшчынай, якая ня робіць значных захадаў па падтрымцы сваіх суродзічаў за межамі краіны. Да гэтага часу не прыняты закон аб беларускіх суайчыньніках. Атрымліваецца, што беларус па-за межамі Беларусі – чужы для яе і ўспрымаецца як замежны грамадзянін. І такім чынам, калі за людзьмі іншых нацыянальнасьцяў стаяць іх этнічныя дзяржавы, за беларусамі – ніхто.

Гэтыя праблемы, як асноўныя, дыскутаваліся ў часе канфэрэнцыі. Праца канфэрэнцыі распачалася з прывітальнага слова ад імя арганізатараў, якое сказалі вядучая Леакадыя Мілаш і старшыня ТБК Хведар Нюнька. Сп. Нюнька ахарактарызаваў праблемы, якія паўстаюць перад Таварыствам беларускай культуры ў Літве. За 25 гадоў працы ёсьць чым і пахваліцца. Гэта і прыдбанае ва ўласнасьць памяшканьне, гэта і зямельны пляц пад пабудову культурна-асьветніцкага цэнтру імя Якуба Коласа. Але зараз перад беларусамі стаіць іншая пагроза: пагражае згуба незалежнасьці Беларусі. У краіне пануе антыбеларускі рэжым, які зьнішчыў усё беларускае. Масавая асыміляцыя беларусаў назіраецца і ў Літве. З кожным перапісам насельніцтва іх усё менш і менш.

Прадстаўніцы Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» зь Менску Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская ў сваіх выступах засяродзілі ўвагу на праблемах працы ў беларускіх дыяспарах у розных краінах. Сёньня зразумела, што калі ня будзе весьціся ніякая праца зь беларускімі дыяспарамі, яны проста перастануць існаваць.

Станіслаў Шушкевіч выказаў засьцярогу, што цяжка выкладаць фізыку на беларускай мове, бо не хапае спэцыяльнай тэрміналёгіі, з чым не пагадзіўся Валянцін Голубеў, зазначыўшы, што дастаткова маецца слоўнікаў і магчыма рабіць калькі з ангельскай мовы, калі сапраўды не хапае тэхнічных тэрмінаў. Таксама Станіслаў Шушкевіч прэзэнтаваў сваю кнігу, якая выйшла на расейскай мове. На думку сп. Шушкевіча, для таго каб захаваць беларускасьць, трэба прывабіць да яе сучасную беларускую моладзь.

Валянцін Голубеў выказаў меркаваньне, што праблема захаваньня беларускай нацыі залежыць ня толькі ад палітычнай сытуацыі, але і эканамічнай. Чалавек выбірае, дзе яму лепей. Ня ўсе такія ахвярныя людзі, якія будуць рваць кашулю і казаць: “Мы беларусы”. Тады, у пачатку 90-ых ня ўсё зрабілі для беларускіх суполак за мяжой. А пасьля прыйшоў чалавек, які адкінуў усе беларускія нацыянальныя каштоўнасьці. Сёньня так атрымліваецца, што і Літоўскай дзяржаве эканамічна выгадна працаваць з афіцыйным Менскам. Эканоміка таксама шмат вырашае. Але зразумела, што афіцыйны Менск ніколі не падтрымае беларускія суполкі замежжа, якія стаяць пад бел-чырвона-белым сьцягам. На жаль, без матэрыяльнай і фінансавай падтрымкі вельмі цяжка падтрымліваць беларускі дух, і трэба штосьці рабіць.

Прадстаўнік новай хвалі беларускай эміграцыі старшыня Грамадзкага і палітычнага прадстаўніцтва Беларусі ў Літве HUB Алег Мяцеліца падзяліўся сваім аптымізмам наконт беларускасьці і лічыць, што ня ўсё так кепска і ня ўсё страчана. На яго думку, калі зьменіцца сытуацыя ў Беларусі на дзяржаўным узроўні, шмат асіміляваных беларусаў зноў стануць беларусамі. І як прыклад, сп. Алег узгадаў канцэрт Ляпіса Трубяцкога ў Вільні, калі палякі станавіліся беларусамі, слухаючы песьні гэтага сьпевака. Таму варта ствараць такія вось прадукты, якія дапамагаюць беларусам адчуваць сябе беларусамі.

Зінаіда Клыга адзначыла, што беларусаў у Эстоніі няшмат: 12 тысячаў (менш за 1 %). Нягледзячы на гэта, існуе некалькі беларускіх суполак у розных гарадах гэтай краіны. Нават на дзяржаўным радыё маецца беларуская праграма. Сама Зінаіда, нягледзячы на тое, што з маленства была адарваная ад Беларусі, цудоўна валодае беларускай мовай, захавала беларускую душу і вельмі прыгожа і душэўна сьпявае песьні на беларускай мове. Сп. Зінаіда прадстаўляе беларускую арганізацыю Эстоніі БЭЗ (Беларускае Эстонскае Згуртаванне), якая ў гэтым годзе адзначыла 24-ю гадавіну сваёй дзейнасьці.

Становішча беларусаў у Латвіі крыху іншае. Пра гэта распавядаў спадар Вячка Целеш. Там яны сярод нацыянальных меншасьцяў на другім месцы. Але там існуе вялікая праблема – яны практычна ўсе рускамоўныя. І беларусы там падзеленыя на два лягеры, як і ў Літве: на «чэсных і нячэсных». У Рызе працуе беларуская школа, але, на жаль, беларускага ў ёй мала. Таксама, у адрозьненьне ад Літвы, няма ў беларускіх арганізацыях прытоку новых кадраў.

Пісьменьнік Уладзімір Арлоў зьвярнуў увагу на тое, што трэба ў Вільні захаваць памяць Кастуся Каліноўскага. У гэтым годзе спаўняецца 150 гадоў з пачатку нацыянальна-вызвольнага паўстаньня на Беларусі і Літве. Вельмі добра было б выправіць памылковую дату на шыльдзе, якая ўсталяваная на месцы пакараньня сьмерцю Кастуся Каліноўскага. А таксама добра было б распачаць захады па ўсталяваньні памятнай таблічы на мяркуемым месцы пахаваньня К. Каліноўскага. Сёньня назіраецца вялікая праблема, калі многія прыпявалы рэжыму, дагаварыліся да таго, што Каліноўскі і яго паплечнікі былі тэрарыстамі і ворагамі беларускага народа. Трэба даць годны адказ на такія заявы Для нас важна захаваць гэтае імя і яго ідэі, за якія ён аддаў сваё маладое жыцьцё. Сп. Уладзімір зазначыў, што ідэі паўстаньня Каліноўскага былі ўвасобленыя ў ідэалах БНР.

Міхась Скобла ў часе канфэрэнцыі прэзэнтаваў кнігу лістоў і ўспамінаў Зоські Верас “Я помню ўсё”. У гэтай кнізе сабраны ня толькі ўспаміны Зоські Верас, але і ўся беларуская гісторыя бурлівага XX ст. Нягледзячы на свой узрост, гэта жанчына да драбніц памятала самыя важныя падзеі, якія адбываліся на працягу яе жыцьця і былі зьвязаныя са знакавымі асобамі ў беларускай гісторыі. І як зазначыў Міхась Скобла, менавіта Зоську Верас можна лічыць самай велічнай асобай сярод віленскіх беларусаў. І калі паўстае пытаньне, каму неабходна яшчэ ўсталяваць памятную шыльду ў Вільні, тут толькі адзін адказ – Зосьцы Верас.

Сп. Алег Трусаў у сваёй прамове быў больш аптымістычным. На яго думку, вялікай пагрозы для беларускай мовы няма. У дадзены момант важна захаваць трасянку і далучыць да яе як мага больш людзей. Людзей, якія размаўляюць на беларускай літаратурнай мове, каля 3-4 %, каля 30 % – на трасянцы. Таму для захавання мовы, важны і гэтыя людзі. Праўда, ужо дажыліся да таго, што беларусы ня чуюць жывой беларускай мовы. Але, па словах Алега Трусава, яго арганізацыя Таварыства Беларускай Мовы робіць вельмі шмат, каб ужываньне беларускай мовы захоўвалася на ранейшым узроўні і хаця б крыху пашыралася.

У далейшых прамовах, якія ў многім перакліkаліся з папярэднімі выступоўцамі, гучала занепакоенасьць лёсам беларускай нацыі і мовы. Выступалі Радзім Гарэцкі, Генадзь Бураўкін, Юрка Станкевіч, Анатоль Астапенка і інш. У іх словах: спадзяваньне на тое, што Беларусь ня зьнікне і будзе жыць далей, беларуская нацыя і яе мова неўміручыя.

Вядомы беларускі рэжысэр Вольга Мікалайчык прэзэнтавала свае новыя фільмы, якія закранаюць самую балючую старонку найноўшай гісторыі – наяўнасьць у краіне палітвязьняў.

У далейшай праграме канфэрэнцыі было адзначэньне юбілею старшыні Таварыства беларускай культуры ў Літве спадара Хведара Нюнькі. Вось ужо каля 25 гадоў ён кіруе гэтай арганізацыяй, якая стаіць на шляху дэмакратызацыі Беларусі, змагаецца за яе волю і незалежнасьць пад бел-чырвона-белым сьцягам і гербам Пагоня. Віншуючы юбіляра многія адзначылі яго вялікі ўклад у захаваньне, пашырэньне і прапаганду беларускасьці ў Літве. Цікава, што народзіны сп. Нюнькі прыпалі на той самы дзень, што і Барыса Кіта, якому споўнілася 103 гады. Удзельнікі юбілею даслалі віншаваньне і паважанаму сп. Барысу.

На другі дзень працы былі падрыхтаваныя і прынятыя тэксты рэзалюцыі і зваротаў у розныя інстытуцыі. Таксама прагучалі новыя выступленьні і адбылося некалькі дыскусій.

Пад час завяршэньня канфэрэнцыі было зазначана, што яна дала магчымасьць беларусам бліжэй пазнаёміцца між сабой, распавесьці пра агульныя праблемы, зь якімі сутыкнуліся суродзічы ў замежжы. Было выказана жаданьне, каб такія канфэрэнцыі арганізоўваліся і ў іншых краінах, дзе пражываюць беларусы. Беларусы Балтыі стала арганізоўваюць свае сустрэчы раз на два гады і гэтым самым трымаюць сваю лучнасьць і даюць прыклад іншым.

*Алесь Адамковіч.Вільня*

# Дзярждэпартамэнт ЗША пра стан абароны правоў чалавека ў Беларусі

Дзяржаўны дэпартамэнт ЗША апублікаваў штогадовую справаздачу аб стане правоў чалавека ў сьвеце ў 2012 годзе.

Разьдзел, прысьвечаны Беларусі, якую ў дакумэнце, як і ў мінулыя гады, называюць «аўтарытарнай дзяржавай», зьмяшчае моцна крытычныя ацэнкі. Гэтая крытыка ў значнай ступені супадае з ацэнкамі з аналягічных справаздачаў мінулых гадоў.

У рэзюмэ беларускага разьдзелу, у прыватнасьці, гаворыцца: «Найбольш значнымі праблемамі ў галіне правоў чалавека па-ранейшаму застаюцца наступныя: a) няздольнасьць грамадзянаў зьмяніць уладу; b) у сыстэме, пазбаўленай прынцыпу стрыманьня і процівагі, улады допускаюць частыя, сур'ёзныя злоўжываньні; c) людзей працягвалі зьняволіваць паводле палітычна матываваных абвінавачаньняў, і улады дагэтуль не далі справаздачы аб палітычна матываваных зьнікненьнях людзей у мінулым».

У дакумэнце таксама падкрэсьліваецца, што ўлады ўсіх узроўняў у Беларусі дзейнічалі з пачуцьцём беспакаранасьці і не рабілі захадаў дзеля судовага перасьледу або пакараньня службовых асобаў ва ўрадзе і сілавых структурах, якія парушалі правы чалавека.

## Беларусь — сярод найгоршых краін сьвету па свабодзе слова



Freedom House апублікавала справаздачу аб свабодзе прэсы ў 2012 годзе. Беларусь трапіла ў сьпіс самых горшых.

Першае месца ў сьвеце займаюць Нарвэгія і Швэцыя з самай свабоднай прэсай, далей ідуць некалькі краін Заходняй Эўропы і ЗША.

Найгоршымі краінамі для журналістаў названыя Беларусь, Куба, Эрытрэя, Экватарыяльная Гвінэя, Іран, Паўночная Карэя, Туркменістан, Узьбекістан — у іх, згодна са справаздачай, незалежных СМІ фактычна не існуе.

## Расея разьмесьціць у Беларусі авіябазу

Першае зьвяно зьнішчальнікаў прыбудзе ў Беларусь ўжо ў гэтым годзе. Пра гэта заявіў міністар абароны Расеі Сяргей Шайгу на сустрэчы з Лукашэнкам.

«Мы пачынаем разгляд плана па стварэньні тут расейскай авіяцыйнай базы з самалётамі-зьнішчальнікамі, спадзяемся, што ў 2015 годзе тут зьявіцца авіяцыйны полк. У 2013 годзе мы створым авіяцыйную камэндатуру тут і паставім першае дзяжурнае зьвяно баявых зьнішчальнікаў», - адзначыў кіраўнік ваеннага ведамства Расеі.

# Зварот да ўраду Рэспублікі Беларусь дэлегатаў Пятай канфэрэнцыі беларусаў краін Балтыі і замежжа

Мы, прадстаўнікі беларускіх арганізацый Літвы, Латвіі, Эстоніі, Польшчы і Чэхіі, з'яўляемся неад'емнай часткай беларускай нацыі, хаця і стала пражываем у замежжы. Мы займаемся захаваньнем і разьвіцьцём беларускай культуры, яе папулярызацыяй у краінах свайго пражываньня, гэтым самым нясем веды пра Беларусь у свет.

Без сыстэмнай падтрымкі з боку Беларускай дзяржавы з кожным годам рабіць гэта ўсё складаней. І як вынік – моцныя асыміляцыйныя працэсы ў замежжы, калі беларусы нават другога пакаленьня ўжо не атаясамліваюць сябе з радзімай бацькоў. Мы заклапочаны тым, што ўсё менш моладзі далучаецца да беларускіх суполак у замежжы. Ад гэтага страчвае беларуская нацыя.

У сувязі з гэтым зьвяртаемся да Вас з прапановай зрабіць найбольш важныя крокі, якія найперш могуць дапамагчы спыніць асыміляцыю і пашырыць беларускую прысутнасьць у рэгіёне:

1. Паскорыць прыняцьце Закона "Аб беларусах замежжа".
2. Павялічыць колькасьць беларускамоўных праграмаў для спадарожнікавага вяшчаньня, бо беларусы, якія нарадзіліся ў замежжы, ужо ня маюць магчымасьці чуць беларускую мову.
3. Прыняць неабходныя захады па падтрымцы існуючых, а таксама стварэньні новых беларускіх школ у замежжы.

Дзеля кансалідацыі беларускай нацыі ў гэты юбілейны, знакавы год 150-годзьдзя нацыянальна-вызваленчага паўстаньня 1863-1864 гг. прапануем усталяваць у сталіцы Беларусі Менску помнік кіраўніку паўстаньня Кастусю Каліноўскаму.

*Вільня, 7.04.2013 г*

# Другія Мельхісадэкаўскія чытаньні



21 красавіка 2013 года ў Прыходзе імя Сьвятое Афрасіні Полацкае БАПЦ адбыўся нядзельны малебен у гонар айцоў-заснавальнікаў БАПЦ і другія Мельхісадэкаўскія чытаньні, прысьвечаныя памяці Мітрапаліта Менскага і Беларускага Мельхісадэка (Міхала Паеўскага).

Са зьмястоўнымі і цікавымі дакладамі выступілі вернікі прыходу БАПЦ і госьці, запрошаныя на чытаньні: Мікола Бамбіза – "Жыцьцёвы шлях Мітрапаліта Мельхісадэка (М. Паеўскага)"; Гянадзь Драздоў – "Вобраз Мітрапаліта Мельхісадэка ў жывапісе" (Г. Драздоў прэзэнтаваў свой мастацкі твор для БАПЦ – партрэт Мітрапаліта Мельхісадэка); Анатоль Валахановіч – "Леў Сямёнавіч Паеўскі – сьвятар, гісторык, археолаг, краязнавец, царкоўны дзяяч – бацька Мітрапаліта Мельхісадэка" і "Камянецкі Сьвята-Сямёнаўскі праваслаўны храм"; скульптар Генік Лойка – "Вобраз Мітрапаліта Мельхісадэка ў мэдальерным мастацтве" (Г. Лойка падрабязна распавёў прысутным, як ён увасобіў вобраз Мітрапаліта Мельхісадэка ў бронзавым мэдалі); Францішак Корзун – "Стан праваслаўнае царквы ў Беларусі-Ліцьве ў пачатку XX стагодзьдзя"; пратаярэй Леанід Акаловіч – "Служка Божы Мітрапаліт Менскі і Беларускі Мельхісадэк" і "Радавод Паеўскіх і сямейныя фотаздымкі".

Старшыня парафіяльнае рады пратаярэй Леанід Акаловіч узнагародзіў мэдалямі прыхаджанаў суполкі – Гянадзя Драздова мэдалём "За Бога і Айчыну" і Міколу Бамбізу мэдалём "Мітрапаліт Менскі і Беларускі Мельхісадэк". Намесьнік Старшыні Гянадзь Драздоў узнагародзіў айца Леаніда мэдалём "Мітрапаліт Менскі і Беларускі Мельхісадэк".

Алесь Сьпічак узнагароджаны мэдалём "Айцы-асьветнікі". Вядомая дасьледчыца жыцьця і дзейнасьці мітрапаліта Мельхісадэка Тацяна Працько за яе папулярызатарскую чыннасьць і другое пашыранае выданьне вялікай манаграфіі пра Мельхісадэка (2012 год) уганаравана новага бронзавага мэдаля першай ступені "Мітрапаліт Менскі і Беларускі Мельхісадэк".

Слухачы шмат даведаліся новага, невядомага дагэтуль пра Мітрапаліта Менскага і Беларускага Мельхісадэка, пра яго бацьку Льва Паеўскага і пра іншыя цікавыя факты з жыцьця Паеўскіх. Дакладчыкам быў зададзены шэраг пытаньняў.

Другія Мельхісадэкаўскія чытаньні ў Менскай Афрасінінскай суполцы закончыліся сьпяваньнем царкоўнага гімну "Магутны Божа" і частаваньнем.

*Анатоль Валахановіч, Менск*

# Парафіяльнае сьвята ў Гайленд Парку



19 траўня Царква Сьв. Жыровіцкае Іконы Божай Маці ў Гайленд Парку прымала гасьцей, у гэты дзень вернікі і запрошаныя традыцыйна адзначалі Парафіяльнае сьвята. З гэтай нагоды з удзелам Першаярарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Уладыкі Сьвятаслава адбылася архіярэйская служба разам з настаяцелем Царквы а. Зеновіем і прыбылымі на сьвята украінскімі сьвятарамі з суседніх цэркваў . Завяршылася служба ўрачыстым крыжовым ходам вакол будынку Царквы і сяброўскімі вітаньнямі ад гасьцей і гаспадароў.

Далей сьвята працягнулася у грамадзкай залі, дзе прысутных чакаў смачны абед, прыгатаваны руплівымі гаспадынямі.

Уладыка Сьвятаслаў падрыхтаваў і зачытаў зьмястоўны рэфэрат пра знакамітыя беларускія іконы, які прысутныя слухалі зь вялікім зацікаўленьнем, асабліва пра Ікону Маці Божай Жыровіцкай, чыё імя носіць гэтая Царква.

Частаваньне суправаджалася выступамі з прывітальнымі словамі, у прыватнасьці са сьвятам парафіянаў прывітала сябра Парафіяльнай рады Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага зь Нью-Ёрку Таццяна Красоўская. Вольную праграму сьвята завяршыла традыцыйная лятарэя, якая ня толькі стварае вясёлы настрой , але і дапамагае ў зборы сродкаў на ўтрыманьне Царквы.

Разыходзіліся прыхаджане ў добрым настроі ад плённа праведзенага сьвяточнага дня. Сьвята і ў гэтым годзе атрымалася ўрачыстым, бо для яго-най падрыхтоўкі Парафіяльная рада пад кіраўніцтвам Віктара Дубягі прыклала шмат намаганьняў .

*Ганна Сурмач*



# Вesткі з Вільні



На пачатку траўня ў Таварыстве беларускай культуры адзначылі дзень народзінаў шматгадовага сябра ТБК – бібліятэкара Ніны Брылеўскай, ёй споўнілася 93 гады, але сьветлай галаве і вы-датнай памяці могуць пазайздросьціць і маладыя. Былая школьная настаўніца, адданая беларуская патрыётка і надзвычай сумленны чалавек, яна праз усё жыцьцё пранесла любоў да беларускасьці, ахвяруючы на гэта шмат асабістага жыцьцёвага часу. Сп. Ніна - родная сястра вядомага грамадзкага дзеяча на Бацькаўшчыне, а пазьней у ЗША Уладзіміра Брылеўскага.

Таксама адзначылі дзень народзінаў сябра ТБК вядомага мастака Алега Аблажэя, які ўносіць значны ўклад у працу суполкі і карыстаецца вялікай павагаю людзей.

Госьць з Менску Вячаслаў Піліпук распавёў пра высакародную справу ўшанаваньня памяці героя Беларусі Юркі Моніча, якую зрабіў мастак Алесь Пушкін. Юрка Моніч нарадзіўся ў 1890 годзе ў сялянскай сям'і. На вайне за асабістую мужнасьць атрымаў Георгіеўскі крыж. Дэмабілізаваны ў званьні падпаручніка, кіраваў антыбальшавіцкім рухам у цэнтральных раёнах Беларусі з 1919 да 1924 году, быў кіраўніком штабу партызанскага беларускага аддзелу войскаў БНР. У часе Слуцкага збройнага чыну быў блізкім паплечнікам Лукаша Семенюка. Пасьля сьмерці Лукаша ягоны аддзел пад камандаваньнем Моніча апэраваў пад выглядам атраду міліцыі ў раёне Барысаўскага, Лепельскага і Аршанскага паветаў. Займаўся вяртаньнем сялянам забранага ў іх праз харчразьвёрстку, нападаў на камуністычныя аб'екты і функцыянэраў. Супроць атрада Юркі Моніча быў кінуты спэцаддзел ГПУ, было арыштавана 75 чалавек, 22 зь іх у лютым 1924 г. прыгавораныя да вышэйшай меры пакараньня. 23 траўня 1924 г. Моніч загінуў падчас страляніны з атрадамі ЧОН. Ягонае зьнявечанае цела доўга вазілі па навакольных вёсках, каб запалохаць магчымых прыхільнікаў. Месца пахаваньня Юркі Моніча невядомае. Алесь Пушкін ставіць крыжы ў мажлівых месцах забойства Моніча, але ў гэтым яму шкодзяць мясцовыя лукашэнкаўскія ўлады.

На імпрэзе быў зачытаны выступ Алега Аблажэя "Прышпільная "мова" і абмяркоўвалі кнігу лістоў Зоські Верас "Я помню ўсё", якую падрыхтаваў і выдаў Міхась Скобла.

Пра жыцьцё і дзейнасьць Рамана Скірмунта распавёў Хведар Нюнька. Раман Скірмунт 7.05.1868 г. дэпутат 1-й Дзярждумы Расеі, старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў 1917 годзе. У 1918 г. сябра Рады БНР, старшыня ўраду.

Прыход немцаў у 1915 г. Раман Скірмунт вітаў і спрычыніўся разам да адраджэньня беларускасьці на акупаваных тэрыторыях. Лёс Рамана Скірмунта склаўся трагічна. Пасьля прыходу ў Беларусь чырвонай арміі, вясковыя актывісты 20 кастрычніка 1939 расстралялі Рамана Скірмунта ў яго ўласным маёнтку.

Напрыканцы імпрэзы быў паказаны новы фільм "Беларускі антысавецкі супраціў 1944-1953 г.г."

*Аглядальнік, Вільня*

# Беларусы Нью-Ёрку пікетавалі "Фольксвагэн"



Каля 30 чалавек пікетавалі 21 красавіка 2013 году прадстаўніцтва аўтаканцэрну Фольксвагэн у Нью-Ёрку. Яны пратэставалі супраць таго, што кампанія "Шкода", 100% акцыяў якой належаць "Фольксвагэну", выступае фундатарам чэмпіянату сьвету па хакеі.

Удзельнікі мітынгу запатрабавалі неадкладна вызваліць і рэабілітаваць палітычных зьняволеных у Беларусі, а таксама правесьці свабодныя дэмакратычныя выбары. Пікет зладзіла эмігранцкая арганізацыя «Беларусы ў выгнаньні».

# Беларускія сьцягі на вуліцах Стакгольму



Пікет беларускіх сьцягоў адбыўся ў Стакгольме перад чарговым матчам чэмпіянату сьвету па хакеі 6 траўня 2013 году.

# Узнагарода ад Лізаветы II



*Сэнатар Райнэл Андрэйчук ды Івонка Сурвілла*

Івонка Сурвілла, Прэзыдэнт Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, атрымала Мэдаль Брыльянтавага юбілею Каралевы Лізаветы II на цырымоніі ў Канадзкім парлямэнце.

«Я маю гонар прадставіць гэтую адзнаку камусьці, хто зрабіў так шмат, каб пасеяць насеньне дэмакратыі ў Беларусі, - сказала сэнатар Райнэл Андрэйчук на цырымоніі ўганараваньня, - Дэмакратыя ня прыйдзе заўтра ў Беларусь, але яна прыйдзе, і ўнёсак спадарыні Сурвілы вельмі важны ў гэтым працэсе».

Мэдаль Брыльянтавага юбілею Каралевы Лізаветы II — дзяржаўная ўзнагарода, заснаваная ў 2012 годзе з нагоды сьвяткаваньня 60-годзьдзя ўзыходу на трон каралевы Лізаветы II.

*08.05.2013*

# Ян Тарасевіч як сымбаль Княства




Як піша Віктар Скарабагатаў: «Ян Тарасевіч абыйшоўся бяз славы, але цяпер слава не абыйдзецца безь яго». Ян Тарасевіч нарадзіўся 23.09.1889 года. Ён – кампазытар, піяніст, педагог. Закончыў кансэрваторыю ў Санкт-Пецярбургу. Ян Тарасевіч да самай сьмерці называў сябе беларускім кампазытарам.

Беларуская ідэя заўсёды прасякала творчасьць Яна Тарасевіча. Ужо ў 1919 годзе былі напісаны вакальныя творы на вершы беларускіх паэтаў-клясыкаў. Ён выхаваў як мінімум чатырох прафэсараў Варшаўскай акадэміі музыкі і сама вядомага сёньня дырыжора ў Польшчы Ежы Максымюка. Ян Тарасевіч быў першым, хто напісаў музыку да вершаў Францішка Багушэвіча, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа. З усёй спадчыны Тарасевіча захавалася 110 твораў: харавыя на вершы толькі беларускіх паэтаў; вакальныя — на вершы беларускіх, польскіх і расейскіх паэтаў; камэрныя творы для струнных інструмэнтаў, ансамблі; самы вялікі скарб — фартэпіянны. Памёр кампазытар 18.06.1961 года ў Беластоку, яго магіла знаходзіцца ў горадзе Саколцы. Яго́ны вучань Анатоль Чарапінскі захаваў найбольшую частку спадчыны кампазытара і ўвесь архіў, і перадаў яе беларускаму народу.

Ян Тарасевіч не трымаўся модных кірункаў музыкі, з-за чаго і не дасягнуў хуткага прызнаньня. Затое цяпер яго творы параўноўваюць з шэдэўрамі творцаў кшталту Рахманінава, Скрабіна. Ян Тарасевіч вучыў ігры на піяніна ў школах у Гародні, Саколцы і Беластоку. І хаця адведвалі яго вядомыя кампазытары, Рахманінаў ці Сібеліус, у Беластоку ён быў забыты і амаль невядомы.

У гонар беларускага педагога, піяніста і кампазытара з Саколкі 10-12 мая 2013 г. у Падляшскай опэры і філярмоніі адбыўся фэстываль імя Яна Тарасевіча.

«Гэтаму беларускаму кампазытару і педагогу трэба аддаць пашану – сказаў дырэктар Падляшскай опэры і філярмоніі Рабэрта Скальмоўскі – Я захапіўся гэтай асобай – яго́ны жыцьцяпіс адметны, і справа, якую ён пасьля сябе пакінуў, таксама адметная. Калі я прыехаў у Беласток у ліпені 2011 года, у верасні прыйшоў дырэктар дэпартамэнта культуры і нацыянальнай спадчыны Падляшскай маршалкоўскай управы Анатоль Вап і прынёс мне ноты, выдадзеныя раней Беларускім гістарычным таварыствам – ноты Яна Тарасевіча. Якраз тады сядзелі ў мяне ў кабінэце Вальдэмар Маліцкі, Ежы Сальвароўскі і Казлоўскі. Я даў гэтым дырыжорам ноты, і яны сьцьвердзілі, што „гэта вельмі пажондная музыка". Дзякуючы Іяланце Вільчэўскай я пазнаёміўся з Ганнай Кандрацюк, якая пайшла "па сьлядах забытага кампазытара". Я тады атрымаў ад яе ксеракс яе кнігі „W stronę Tarasiewicza", прачытаў я гэтую кнігу ў адну ноч і сьцьвердзіў, што Ян Тарасевіч зьяўляецца вялікім скарбам гэтых зямель. Мы трак-



туем гэтае прозьвішча, як сымбаль высокага мастацтва, якое ўзнікала на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Я вельмі прывязаны ў гэты момант да быцьця грамадзянінам ВКЛ. Паехалі мы з Ілонай Карпюк і дырэктарам Анатолем Вапам летась у лютым у Менск, сустрэліся зь міністрам культуры, з кіраўніком Дзяржаўнага архіва і спыталіся, ці можам карыстацца супольна Тарасевічам, як сымбалем. Мяркуем штогод рабіць фестываль яго імя, у час якога будзем іграць музыку, якая ўзьнікла на тэрыторыі сёньняшняй Літвы, Латвіі, Эстоніі, Украіны, Беларусі, Расіі, іх кампазытараў – на адным дыханьні можна пералічыць – дынастыю Агінскіх, Напалеона Орду, Казлоўскага, Радзівіла... Гэта, як руку працягнуць – па-суседзку. Будзем выдаваць творы Яна Тарасевіча для вучняў. Анатоль Вап успомніў мне яшчэ: „У нас, у Беларускім гістарычным таварыстве, ёсць памяткі па Яну Тарасевічу, між іншым піяніна, перададзенае Анатолем Чарапінскім. „Дык давайце тое піяніна, паставім у нас у файе. І яго́ны інструмент тут будзе стаяць назаўжды. Тут ёсць і іншыя памяткі, якія Таварыству ў дэпазіт перадала Ганна Кандрацюк. Хочам, каб Тарасевіч трактаваўся, як частка культурнай спадчыны гэтай зямлі. І гэта важнае, каб глядзець над гэтымі межамі ў гэтай палітычнай сітуацыі, якая ёсьць. Дапамогу з боку Міністэрства культуры Беларусі і Дзяржаўнага архіва Беларусі ўбачым у выглядзе гэтай выставы і ў штогадовым фестывалі.

Мне вельмі залежыць на тым, каб у наступным годзе з'явіўся тут яшчэ больш лік артыстаў. Верым, што такая асоба, як Ян Тарасевіч, можа быць лакаматывам, разьясьняючым сьвятло над усімі творцамі, якія на тэрыторыі гэтых земляў стварылі і ствараюць".

Гісторык Алег Латышонак у сваім выступе адзначыў: " Мы, як беларуская грамадзкасць, проста шчасьлівыя, што адбываецца такое ўшанаваньне Яна Тарасевіча. Мы гадамі чакалі, пільнавалі памятак. Піяніна стаяла ў куце нашай сядзібы, у бібліятэцы. Наша грамадства даведалася, што мелі мы такога вялікага кампазытара, дзякуючы Ганне Кандрацюк і Віктару Скарабагатаву зь Менску, бо гэта ён падрыхтаваў выданьне гэтых нот, мы іх выдалі – рабілі тое, што змаглі. Тарасевіч чакаў свайго дня. Мы верылі ў гэты дзень".

У фае Падляшскай опэры і філярмоніі ў пастаянным кутку памяці Яна Тарасевіча наведвальнікі, апрача піяніна, пабачаць яго́ныя асабістыя рэчы, фотаздымкі, карэспандэнцыю. На камэрным канцэрце беластоцкіх музыкаў (Кшыштаф Станенда – фатрэпіяна, Рафал Дудзік – скрыпка, Шыман Стэмпка – віяланчэль) сабралася поўная заля слухачоў, якія пачулі творы Яна Тарасевіча, затым паглядзелі фільм Юркі Каліны «Ян Тарасевіч. Невядомы кампазытар». 12 траўня сабраўся яшчэ больш гурт слухачоў на канцэрце Ільлі Сільчукова (барытон) і Тацьцяны Лойшы (фартэпіяна) беларускіх рамансаў (Яна Тарасевіча, Сымона Рак-Міхайлоўскага, Леаніда Захлеўнага і Станіслава Манюшкі) ды на канцэрце хору, які выканаў народныя беларускія творы ў апрацоўцы Міколы Равенскага ды песьні Яна Тарасевіча на вершы беларускіх клясыкаў. Харошым клямарам для фэстывалю музыкі Княства было выкананьне велічнага «Вастрабрамскага літаньня» D-dur для салістаў, зьмешанага хору і фартэпіяна Юзафа Дашчынскага ў аўтарскай транскрыпцыі Уладзіміра Байдава.

*Міра Лукша, Беласток*

# Кніжка, якая пашырае веды пра Беларусь




10 траўня ў будынку Радыё Свабода ў Празе адбылася сустрэча журналістаў з Джоан Айві Станкевіч, аўтаркай кнігі ўспамінаў «Жыцьцё з водарам небясьпекі: Эўрапейскія прыгоды падчас падзеньня камунізму», якая нядаўна выйшла ў выдавецтве Outskirts Press у ЗША.

Джоан Айві Станкевіч разам са сваім мужам Вячкам Станкевічам, колішнім дырэктарам Беларускай службы Радыё Свабода (1989-1998), прыехалі ў Эўропу, каб прэзэнтаваць кніжку для чытачоў у тых краінах, зь якімі зьвязаныя падзеі, апісаныя ў кнізе, гэта Чэхія, Польшча, Італія, Нямеччына, Літуанія.

Адносна рэакцыі чытачоў на сваю кніжку, Джоан Айві Станкевіч адзначыла:

«Кніжка выклікала большую зацікаўленасьць Беларусьсю сярод амэрыканскіх чытачоў. Некаторыя мне прызнаюцца, што яны цяпер сочаць за навінамі зь Беларусі, калі нешта там адбываецца, напрыклад, калі зь неба падаюць плюшавыя мядзьведзікі.

Так што зьявілася большая ўвага да Беларусі. Раней мне здаралася чуць у Амэрыцы: Беларусь? А дзе гэта? Мая кніжка ня толькі зьмяшчае мапу Беларусі, але і нешта распавядае пра гэтую краіну. Дзякуючы кніжцы, людзі даведваюцца больш пра Беларусь».

# Інфармацыя з Украіны

*Яе даслаў нам філёляг і журналіст з украінскага гораду Ізяслаў сп. Пятрусь Капчык. У прадмове да сваёй публікацыі ён напісаў:*

*"Дасылаю для друку першы допіс з сэрыі допісаў пра стан беларускай мовы ў СМІ Беларусі на раённым узроўні. 23-24 ліпеня ў сталіцы краіны Менску адбудзецца 6-ы зьезд МГА "БАЦЬКАЎШЧЫНА", і я вырашыў беларускую дыяспару Украіны пазнаёміць праз фотаздымкі з усімі раённымі і буйнымі нераённымі гарадамі Беларусі, абласнымі цэнтрамі і сталіцай краіны. Давялося шмат правесьці часу ў розных даведніках, Вікіпедыі і г.д. І вось на маім профілі ў "Одноклассниках" зьявіліся два фотаальбомы: "МЕНСК-МІНСЬК-MINSK" і "БЕЛАРУСЬ-BELARUS". Запрашаю і чытачоў "Беларуса" заходзіць на мой профіль PIOTR KAPCZYK на сайце "Одноклассники" і паглядзець на свае родныя мясьціны, заўважыць там зьмены,якія адбыліся за час вашай там адсутнасьці...*

*Паралельна з гэтай працай, я дасьледfваў і стан мясцовых СМІ, як абласных, так і раённых. Пра свае назіраньні я і паведу аповяд, і пачну яго зь Віцебшчыны, дзе ўпершыню ў сваім жыцьці пабываў у ліпені 2011 году на Першым фестывалі мастацтваў беларусаў сьвету, які адбываўся ў Менску і Віцебску...*

Віцебшчына знаходзіцца на поўначы краіны, азёрны край, адсюль пайшоў у сьвет наш перша-друкар Францішак Скарына, тут нарадзілася ў Полацаку наша сьвятая Эўфрасіньня, тут нара-дзіліся нашы славутыя пісьменьнікі Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч, Уладзімер Арлоў, адсюль родам мой сябрук-паэт Сяргей Панізьнік, адсюль родам паэтка і дзеячка беларускай дыяспары ва Ўкраіне ( Палтава ) Іна Снарская... А яшчэ Сімеон Полацкі, Уладзімір Някляеў, Марк Шагал... Сьпіс славутых нашых суродзічаў з гэтага куточку Беларусі можна яшчэ пералічваць, але я спынюся, бо гамонка сёньня пойдзе пра сучасную Віцебшчыну,пра стан нашай роднай мовы на яе абшарах...

І распачну я аповяд, бадай, з ...Расоншчыны. Згодна з апошнім перапісам насельнікаў, беларусаў тут было 89,41%, зь якіх 69,77% лічылі сваёй роднай мовай БЕЛАРУСКУЮ, а 42,44% на роднай мове (беларускай) гамоняць у сваіх сем'ях. Расоншчына мяжуе з Расеяй, таму ўплыў яе мовы на мясцовых беларусаў робіць сваю "справу" - русіфікацыя навідавоку! На сёньня я налічыў разам з Расоншчынай яшчэ 13 раёнаў Віцебшчыны, дзе беларусы ў сваіх сем'ях перасталі размаўляць па-беларуску, а адсотак тых, хто застаецца верны сваёй мове, меншы за 50%: Талачынскі раён - 43,11%; Бешанковіцкі раён - 40,4%: Чашніцкі раён - 39,06%; Браслаўскі раён - 38,08%; Верхнядзьвінскі раён - 37,61%; Аршанскі - 37,18%; Полацкі - 35,33%; Лепельскі - 32,74%; Дуброўненскі- 31, 3%; Лёзьненскі раён - 29,5%; Шумілінскі раён - 21,16%; Гарадоцкі раён - 17,71%; Віцебскі раён (разам з Віцебскам) - 11,49%. Магчыма, некаторыя з вас, шаноўнае спадарства, пачнуць зь мяне кпіць, чаго гэта я "прычапіўся" да Расоншчыны, якая я ў гэтым "чорным сьпісе" на 13 месцы па колькасьці беларусаў-манкуртаў?! Вінаватая ў гэтым раённая газэта, якая нават не маскуе сваю расейскамоўнасьць беларускамоўнаю "шапкаю" (назовам газэты па-беларуску). Ён у яе расейскамоўны: "Голос Россонщины", а пачытайце прозьвішчы яе супрацоўнікаў: Лебедева (рэдактар), Кирилова,Гореликова, Алексеева, Лопатина, Морозова, Герасимова... У нумары газэты на яе сайце, які я пераглядаў, не было жаднага артыкулу па-беларуску! Больш за тое, усе гэтыя кабеты-расіянкі не дапусьцілі беларускую мову на сайт газэты. Яе зьмест падаецца на расейскай, зь перакладам на ангельскую, гішпанскую, італьянскую, нямецкую і... украінскую мовы. Хочаце ўпэўніцца ў праўдзівасьці маіх слоў?! Калі ласка, www.rossonka.by

*Пятрусь Капчык*

# Новы посьпех Ірыны Варабей



Ірына Варабей са сваёй мастацка-дызайнэрскай кампаніяй "Spirit of Belarus" прэзэнтавалася ў праграме "Дызайнер месяца", якую праводзіла студыя "Gitta's" - спэцыялізаваная ў вышыўцы крама, найбуйнейшая у Антарыё.

Прэзентацыя праходзіла на працягу травеня 2013 г.

У праграме былі:
- Выстава вышывальных работ Ірыны Варабей
- 8 травеня і 25 травеня - майстар-клясы па беларускай традыцыйнай вышывальнай тэхніцы "нізанка" ("працяг").
- 11 травеня - "Дзень з дызайнэрам"
- Продаж схем вышывак па работах Ірыны.

## Беларусь у лідарах па колькасьці зьняволеных у Эўропе



Па дадзеных Міжнароднага цэнтра турэмных дасьледаваньняў, які прыводзіць статыстыку за сакавік 2013 года, у Расеі налічваецца 487 зьняволеных на 100 тыс. жыхароў. Другое месца ў Эўропе па гэтым пакачзыку займае Беларусь (438 вязьняў), за ёй ідуць Грузія і Азэрбайджан.

Незалежныя экспэрты лічаць, што рэальны пакачзык значна вышэй. Грамадзкія актывісты неаднаразова падкрэсьлівалі, што не вераць афіцыйнай статыстыцы. Па іх словах, колькасьць зьняволеных у два разы вышэй за афіцыйныя дадзеныя. Такое разыходжаньне праваабаронцы тлумачаць перанаселенасьцю, якую афіцыйна замоўчваюць.

За 2012 год колькасьць зьняволеных вырасла амаль на чвэрць. Паводле дадзеных, апублікаваных у пачатку мінулага года, у Беларусі на 100 тыс. чалавек прыпадала 328 зьняволеных.

# Беларус Алекс Гальчанюк – узыходзячая зорка амэрыканскага хакею




Зборная ЗША заняла трэцяе месца на нядаўнім Чэмпіянаце свету ў хакеі. Вызначальны гол забіў беларус Алекс Гальчанюк.

Яшчэ ў чвэрцьфінале Чэмпіянату Гальчанюк дапамог ЗША перамагчы зборную Расеі зь лікам 8:3. Сын вядомага беларускага хакеіста Аляксандра Гальчанюка, давёў у другім перыядзе лік да разгромнага - 1:4.

Сёлета ў студзені Алекс Гальчанюк стаў чэмпіёнам сьвету па хакеі сярод моладзі ў складзе зборнай ЗША.

Алекс нарадзіўся ў 1994 годзе ў Мілуокі. Тады ў Штатах за мясцовую каманду гуляў ягоны бацька. Вядома, што за хакеіста Гальчанюка змагаліся расейцы, яны хацелі, каб хлопец прыняў іхняе грамадзянства. Але Алекс выбраў амэрыканскае

Беларуская фэдэрацыя, нягледзячы на тое, што хлопец амаль кожнае лета праводзіць у Менску, ні разу, па ягоных словах, не зьвярнулася да яго з просьбай выступаць за айчынную каманду.

У інтэрвію «Прессболу» Алекс у мінулым годзе казаў: «Мне ніхто не прапаноўваў гуляць за беларускую зборную. За ўвесь час я не размаўляў ні з адным з кіраўнікоў вашай фэдэрацыі. Прызнацца, такое стаўленьне зьдзіўляе. Усе ведаюць, што праводжу летам у Менску па паўтара-два месяцы, але тым ня менш ніхто не знайшоў час хоць бы выйсьці на сувязь».

Заакіянская прэса адзначае, што Гальчанюк упэўнены ў сабе гулец, які мае добрае пачуцьцё лёду і крэатыўнасьць у атацы.

# "Прышпільная" мова

Цяперашні стан беларускай мовы з'яўляецца бадай што самым трагічным за ўсю гісторыю яе існавання. Лёгкіх часоў яна не ведала ніколі - але раней існаваў магутны вясковы беларускамоўны пласт. Цяпер жа і вёска русіфікавана дашчэнту. Практычна зьнішчаны беларускія школы, хоць нават у часы як першай, так і другой нямецкай акупацыі яны існавалі.

Іначай і быць не можа, пакуль краінай кіруе асоба, якая дзіка, паталагічна, ненавідзіць усё беларускае.

З уладамі ўсё зразумела - калі не лічыць некалькіх нацыянал-камуністаў 20-х гадоў мінулага стагоддзя, ніводзін кіраўнік не дбаў пра беларускую мову. Аднак цяпер парадаксальным чынам небяспека для беларускай мовы зыходзіць і ад самых гарачых яе прыхільнікаў. Справа ў тым, што для гэтых людзей беларуская мова не ёсць і не магла быць матчынай. Цяперашнія Сяржукі і Алесі не так даўно былі Серёжамі і Сашамі. Шлях кожнага да мовы быў сьвядомы, але цяжкі і пакутлівы. Найлепей гэта апісана ў кнізе Сяргея Дубаўца "Гісторыя аднаго цуду".

Што робіць новазвернуты вернік? Ён пачынае "ўдасканальваць" рэлігію. Гэтаксама і з мовай. "Новазвернутыя" беларусы не давяралі звыклым школьным падручнікам. Яны былі цвёрда перакананы, што сапраўдную, "клясычную" мову ад іх схавалі бальшавікі, і вучыцца трэба паводле граматыкі стогадовай даўнасці. Бо праўдзівая мова - гэта не сучасная, выпраўленая ў часы БССР, а т. зв. "тарашкевіца".

Эпоха, у якую ўзьнікла "тарашкевіца" - часы станаўлення беларускай літаратурнай мовы. Яе можна і трэба параўноўваць з часамі Кантэміра і Ламаносава ў Расіі, Яна Каханоўскага ў Польшчы, Крысціёнаса Данелайціса ў Літве. Усе вышэйпамянёныя асобы, уключна з нашым Тарашкевічам – першапраходцы, якія з цяжкасцю пракладвалі, пратоптвалі сцяжынкі ў нязведанае. Магістралі збудуюць іншыя. Таму іхняя мова ніяк не магла быць дасканалай. Тарашкевіч рос і дзейнічаў, аточаны польскамоўнай атмасферай - гэта мова гучала ўсюды - у палацах і касьцёлах, у школах і на вуліцы. Што ж дзіўнага, калі нават Купала першыя вершы пісаў па - польску. Пагэтаму для іх усе гэтыя "валізкі", "філіжанкі" і "варункі" гучалі цалкам натуральна. Што там Купала - цяперашнія літоўцы з цяжкасцю разумеюць свайго Данелайціса, бо ягоная паэзія шчодра перасыпана паланізмамі. А ўжо калі мовы блізкія? Звярніце ўвагу, як гавораць беларусы, што жывуць у расійскамоўным асяроддзі -- яны самі не заўважаюць, што ўстаўляюць у гутарку бясконцыя "да", "то есть", кажуць "у АмерыКЕ", "у вёсКЕ", "зьявіЛся", -- замест "у АмерыЦЫ", "у вёсЦЫ". ( А адзін дзеяч увесь час казаў -- "Вось паеду ў АмерыЦУ"!)

Праблему абцяжарвае нізкі агульнакультурны ўзровень, няведаньне замежных моваў. І нашы "адраджэнцы" шчыра прымаюць чыста польскія словы і выразы за "очань біларускія", памятаю, як мне аднойчы патэлефанаваў такі энтузіяст і ўзбуджана паведаміў: "Мы прыдумалі, як па-беларуску "бутэрброд"! - І як? "Канапка!" Яны шчыра перакананыя, што формы "хварэць не ЧЫМ, а НА штось, чакаць не КАГО, а НА КАГО, - гэта па - беларуску. Асабліва камічна, калі нават інтэлектуалы ўжываюць слова "выкшталцоны" ў сэнсе "изящный", -- (выкшталцоныя ногі") Між тым, "wykształcony" значыць "адукаваны". "Адукаваныя ногі" - праўда, няслаба!

Бяда і са словамі замежнага паходжаньня - з аднаго боку, слушная ідэя, што ня трэба рабска капіраваць расійскую транскрыпцыю. Але ж і польская не заўсёды лепшая - палякі чытаюць замежныя словы ў адпаведнасьці са сваёй граматыкай. І "nazismus" у іх стаўся "націзмам", бо "Z" па - польску чытаецца як "з", а не як "ц". Вось так і англійскі club (клаб) стаўся ў іх "клюбам".

Але гэта праблемы суседняга народу. Пры чым тут мы? Асабліва беларусы Віцебшчыны, Гомельшчыны ды Магілёўшчыны, дзе палякаў бачылі хіба што ў часы Стэфана Баторыя. Трэба быць моцна глухім чалавекам, каб слых не рэзалі "райклюб", "клясны кіраўнік" ды іншыя. А такія словы - монстры як "кубэрта", "сылюэт", проста крычма крычаць - "мы ня вашы, мы чужыя!"

"Аднаклясьніца перад візытам у клюб "Ганалюлю" спраўджвае кальготкі празь люпу" - праўда, хораша! Як жа па - беларуску!

І цягнуць, і цягнуць "пальшчызну" ў нашу бедную мову. Ужо ніхто не кажа "курыць", - толькі "паліць". А мова не прымае, супраціўляецца - бо па-польску той, хто "pali -- palacz". А па-беларуску "паляч", "палач"? Між тым спрадвеку на Беларусі былі "курцы". " От накурылі, каб на вас шэрсьць курэла!" - абураліся жанкі, заходзячы ў хату.

Чаго толькі не навыдумляюць "моватворцы" хатняй гадоўлі! Часам цяжка зразумець, што ж хацеў сказаць ягамосьць. Адзін ужываў выраз "апярэдзіў палічыць". І толькі з кантэксту можна было здагадацца што ён меў на ўвазе "предпочёл" - ( думае то па-расійску!") А "камандзёр", "камандыр"!.. "вадаплаў" -- "шашаезда" і "небалёта" пакуль няма...

А "трунак" замест пітва, " ліквор" замест "лікёру"... І не падазраюць нават, што "ліквор" - гэта сьпінна-мазгавая вадкасьць, ласавацца якой могуць хіба што канібалы!

"Зупа" заместа "поліўкі" ці проста "супу". "Далікатны, ветлівы" - о не, некрасіва, трэба "гжэчны"! "Філасаф" - фу, які русізм! Трэба - "філёзаЎ!" "Скрыначка" - што за дзеравеншчына! Трэба "пушка" або "пудэлка"... І ня "пляскаць", а "кляскаць"! А яшчэ "бэльбэтавыя штроксы"! "Маціцовая ўсьмешка!", "Адсьлігаваныя ногі!". А "мюзыкал" і "тэатар"...

Гэтак у савецкім войску "дзембелі" упрыгожвалі сваю форму рознымі аксельбантамі, шнурочкамі, дроцікамі і зорачкамі, кожны на свой густ.

Ніяк не магу даўмецца, адкуль узялася "БаЎгарыя"? Мо ўжо трэба казаць і "БаЎканы"? Гаворыць жа адзін дзеяч на "Свабодзе" - "каЎгас"! А "Сырыя" - гэта ад слова "сыр"?

"Сібір" - фу, как груба! Нада - "СЫбір!"

Цікава, што на той жа "Свабодзе" Ян Максімюк неяк ня рвецца быць "МаксЫмюк", хоць паводле "тарашкевіцы" трэба так. Увогуле, "адраджэнская" "лёгіка" своеасаблівая - пішуць "Лёндан", але "Шэрлак", а не "ШэрлЯк", "мэталюрг", але чамусь "іслам", а не "ісьлям"...

Асабліва пацешыла суполка "Будзьма!" - на кампакт-дыску напісана, што там сярод іншага знаходзяцца "ПРЫШПІЛЬНЫЯ шпалеры"! Калі ачомаешся, даходзіць, што гэта "прикольные!"

І так вось беларуская мова ператвараецца ў пасьмешышча, пародыю сама на сябе - нешта накшталт інтэрнэтнага "ОЛБАНСКОГО". І гэта ўсё не надае нашай мове папулярнасьці.

Бяда ня толькі з паланізмамі. Так, цяпер стала модна ўжываць "Летува" замест "Літва" - маўляў, сапраўдныя літвіны - гэта мы, а "яны" "жмудзіны". "Эрудыты" не падазраюць, што Літва - ня толькі Жамойць, але і Дзукія, Аўкштайція, Сувалкія. Да таго ж ня ведаюць, дзе правільна ставіць націск, і кажуць ЛетУва замест ЛетувА... А яшчэ "сапраўдныя патрыёты" ўжываюць словы "летувіс", летувіска". Ня ўзгадваючы немілагучны "віск", трэба зазначыць, што "летувіска" - слоўны абсурд, аксюмарон. Бо ў літоўскай мове канчатак "ас", "іс" абазначае мужчынскі род. Жаночы, адпаведна "а", "е" - літоўка будзе "летуве" (lietuvė). "Летувіска" мае абодва канчаткі - гермафрадыт, ці што, адначасова і мужчына, і жанчына?

У любой жывой мове адбываецца несупынны працэс эвалюцыі, разьвіцьця. Абсурдам было б лічыць, што ў БССР мову толькі псавалі, а сапраўдная захавалася толькі на эміграцыі, якая ніколі не адмовілася ад "тарашкевіцы". Абноўлены правапіс не перашкодзіў Караткевічу і Быкаву, Барадуліну і Разанаву стварыць выдатныя творы, роўных якім дарэмна шукаць сярод эмігранцкай літаратуры. Як нельга двойчы ўвайсьці ў тую самую раку, таксама немагчыма стагоддзямі заставацца ў той самай плыні. Нельга ў наш час пісаць моваю Я.Станкевіча, пры ўсёй павазе да ягонай дзейнасці - "Нацанальна ўсьведаміўшыся ў 1909 г., я пачаў усюдых запісаваць словы беларускія... Вызукаючы мову беларускую..." -- і г. д. Той, хто цяпер "вызукае" беларускую мову, жыве ў іншую эпоху з іншымі патрабаваннямі. Немагчыма ўявіць сабе артыкул пра Вялікі андронны калайдэр, дзе б ужываліся словы "тутака", тамака", "гэны", "хворма".

Але ня ўсё так безнадзейна - вось, скажам, чытаеш найноўшую кнігу Алеся Бяляцкага, - нічога ня рэжа і ня драпае ані слыху, ані вока. Можам, калі захочам! Нават у нялюдскіх абставінах, за кратамі...

На вялікі жаль, нельга з упэўненасцю сказаць, што беларуская мова не знікне ніколі. Пэўна толькі тое, што кожны з нас павінен зрабіць усё, каб яна жыла.

А жыць - значыць глядзець не назад, а наперад, дасканаліцца і развівацца.

*Алег Аблажэй*
*Вільня*

*Ад рэдакцыі: А ці згодныя нашы чытачы зь меркаваньнем спадара Аблажэя? Запрашаем вас падзяліцца сваімі думкамі на гэтую балючую тэму.*





# Піяніст Віталь Стахіевіч

*(скарочаны тэкст інтэрвію Ганны Соўсь, з сайту Радыё Свабода 21.05.2013 )*



*Беларускі піяніст Віталь Стахіевіч, ляўрэат шэрагу прэстыжных міжнародных конкурсаў нарадзіўся ў 1980 годзе ў Менску. Скончыў Рэспубліканскі музычны каледж і Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі. Віталь выступае як саліст, з аркестрамі і камэрнымі ансамблямі ў Беларусі, а таксама ў Бэльгіі, Нарвэгіі, ЗША, Мэксыцы, Галяндыі, Нямеччыне, Італіі, Францыі, Грэцыі, Расеі, Літве, Грузіі і Малдове. Улетку 2000 года запісаў на італьянскай фірме «Agora» кампакт-дыск з музыкай Шубэрта. Прызёр міжнародных конкурсаў у Вільні (Літва), Антвэрпэне (Бэльгія), Таранта (Італія), Мар'янскіх Лазьнях (Чэхія), Амстэрдаме і Менску. У 2007 годзе Віталь атрымаў ступень магістра ў Амстэрдамскай кансэрваторыі.*

**Ганна Соўсь:** Віталь, як музычны лёс прывёў вас у Амстэрдам?

**Віталь Стахіевіч:** Яшчэ пад час маёй вучобы ў Менску я выяжджаў некалькі разоў на конкурсы, на канцэрты, у тым ліку ў Галяндыю і заўсёды хацелася павучыцца за мяжой, набрацца новага досьведу і ўражаньняў. Як ня дзіўна, Амстэрдам гэта адначасова і выпадковы, і сьвядомы выбар.

**Соўсь:** Вы вучань беларускай піяністкі Зоі Качарскай і нарвэскага піяніста Хокана Аўстбё. Чым розьняцца гэтыя школы? Ці можна ўвогуле казаць пра розьніцу музычнай школы на постсавецкай прасторы і эўрапейскай?

**Стахіевіч:** Зоя Венеамінаўна Качарская – гэта мая музычная маці, якая выгадавала мяне. Калі я яшчэ быў хлопчыкам, яна паставіла мне школу. Гэта немагчыма перадаць словамі, наколькі глыбокія нашыя музычныя стасункі. Хокан Аўстбё – гэта прафэсар, зь якім я пазнаёміўся, калі навучаўся ў магістратуры ўжо даволі дарослым чалавекам, калі спрабаваў стаць на ўласныя ногі, шукаць нечага свайго. Мне здаецца, што на Захадзе савецкая фартэпіянная школа карыстаецца вялізнай пашанай, можа, нават перабольшанай. У той жа час з нашага боку заходняя фартэпіянная школа трохі недаацэньваецца, паблажлівае стаўленьне, на мой погляд, прасочваецца калі-нікалі, і даволі недарэчна.

**Соўсь:** У Швэцыі прайшоў музычны конкурс Эўрабачаньне, якому ў Беларусі, як лічаць многія, надаецца празьмерная ўвага. Некалькі гадоў таму на Эўрабачаньні перамог Аляксандра Рыбак, беларус з Нарвэгіі. І тады даволі часта гучала меркаваньне, што калі б ён жыў і фармаваўся як музыкант у Беларусі, ён ніколі б ня стаў бы тым, кім стаў. Ці вы згодныя, што для паўнавартаснай творчай рэалізацыі беларускаму музыку, мастаку трэба жыць у Эўропе?



**Стахіевіч:** Пытаньне неадназначнае. Я маю прыклады, калі выдатны сьпявак, саліст опэрнага тэатру ў Менску Юры Гарадзецкі атрымаў прэмію, на маю думку, на значна больш складаным конкурсе каралевы Лізаветы ў Брусэлі. Ці піяніст Андрэй Паначэўны альбо скрыпач Арцём Шышкоў – усе яны фармаваліся так ці інакш у Беларусі і дасягнулі вельмі выдатных вынікаў. Але што мне падаецца дакладна, што для любога чалавека, для музыкі вельмі карысна заўсёды на нейкім этапе жыцьця проста паехаць у іншы горад, у іншую краіну і паспрабаваць пачаць усё спачатку, нечаму павучыцца.

**Соўсь:** Вы пісалі 3 красавіка сёлета ў сваім блогу: «Кожны музыкант марыць хоць аднойчы спусьціцца па знакамітай чырвонай лесьвіцы (гэта значыць – выступіць у Вялікай залі амстэрдамскага Канцэртгебаў). Сёньня са мною гэта здарылася ўпершыню». Па якой яшчэ лесьвіцы якой канцэртнай залі вы ўжо прайшлі, а па якой марыце прайсьці?

**Стахіевіч:** Я сапраўды прагуляўся па чырвонай лесьвіцы Канцэртгебаў. Гэта вялікая заля на 2 тысячы слухачоў. Але і кожны выступ ў залі філярмоніі ў Менску незабыўны, яскравы. Гэта такі пункт адліку ў кожным канцэртным сэзоне. Я імкнуся выступаць у як мага больш розных месцах, у новых залях, у новых краінах. Вось аб чым я мару.

**Соўсь:** Вы беларускамоўны амстэрдамскі беларус, так бы мовіць наш чалавек у Амстэрдаме. Наколькі вы сочыце за тым, што адбываецца ў Беларусі? І якой вам бачыцца краіна, у якую б вы вярнуліся жыць і працаваць?

**Стахіевіч:** Я ня маю такой пазыцыі, каб ставіць умовы для вяртаньня. Напрыклад, я лічу абсалютна непрымальным у цяперашняй Беларусі ганебную русыфікацыю, якая апанавала ўсё грамадзтва, і ўвогуле стаўленьне да нацыянальнай культуры, возьмем архітэктуру і гэтак далей. Наколькі я інтэграваўся ў Галяндыі? На моўным узроўні так, але на нейкім душэўным, культурніцкім



узроўні я надаю больш увагі падзеям у Беларусі. Тое, што я чытаю ў інтэрнэце, якія я кнігі купляю – гэта сьведчыць пра тое, што я ў думках ў Беларусі.

# Ліст у рэдакцыю

Па прапанове аднаго са старэйшых дзеячаў беларускай эміграцыі ў Амэрыцы **сп. Алеся Міцкевіча** мы адчыняем гэтую новую рубрыку ў нашай газэце.

У сваім лісьце ў Рэдакцыю сп. Алесь піша: "Рэдакцыя прымае і сама можа даваць зьмест для газэты, але гэта ёсьць толькі некалькі асобаў. І ніхто з чытачоў не турбуецца нешта сказаць пра зьмест газэты".

Гэта вельмі слушная, на наш погляд, заўвага. На жаль, так ёсьць, што нашыя чытачы не бяруць дзейснага ўдзелу ў фармаваньні зьместу газэты, не прапануюць новых ідэяў, не дзеляцца сваімі думкамі і вопытам, не даводзяць крытычных заўвагі. Гэтая пасыўная роля не спрыяе далейшаму разьвіцьцю выданьня, не стварае зваротную сувязь рэдакцыі з чытачамі.

Чамусьці няма ў нашых чытачоў жаданьня і падзяліцца сваімі асабістымі навінамі і дасягненьнямі ў эміграцыйным жыцьці. Мала хто жадае праз газэту павіншаваць сваіх блізкіх, сяброў з нейкімі важнымі падзеямі ў іх жыцьці. А ўсё гэта з дапамогаю газэты застанецца ня толькі ў беларускай гісторыі, але і ў гісторыі вашых семьяў, будзе што паказаць вашым нашчадкам.

Мы стараемся публікаваць усё, што вы дасылаеце нам, чакаем і вашага жаданьня і актыўнасьці ў справе напісаньня інфармацый для газэты, не шкадуйце свайго часу і гэта дасьць добрыя вынікі

Жадаем посьпехаў і чакаем вашых допісаў, шаноўныя чытачы. Выказваем вялікі дзякуй сп. Алесю Міцкевічу за ягоны добры прыклад зацікаўленасьці ў зьмесьце газэты і за ягоную каштоўную прапанову.

*Рэдакцыя*



# Беларусы Нью-Ёрку пікетавалі ААН




У Нью-Ёрку 12 траўня прайшла акцыя пратэсту супраць супрацоўніцтва міжнародных арганізацый зь беларускім рэжымам. Яе правялі каля будынка прадстаўніцтва Беларусі ў ААН.

Беларусы Нью-Ёрку вырашылі выказаць сваю нязгоду з супрацоўніцтвам ААН з рэжымам, які ажыцьцяўляе гандаль людзьмі і выбівае крэдыты і прэфэрэнцыі ў абмен на вызваленьне палітычных зьняволеных. Удзельнікі пікету скандавалі: «Не - гандлю з дыктатарам! Не - супрацоўніцтву з дыктатарам». У руках яны трымалі бел-чырвона-белыя сьцягі і транспаранты з заклікам вызваліць палітвязьняў.




# Дзіцячая старонка

*Паважаная Рэдакцыя! Дасылаю на Вашу дзіцячую старонку два вершы "Калыханка" і "Пасьля навальніцы". Першы я прысьвяціў сваёй любай унучцы Ангеліне (2009 года нараджэньня), другі - успаміны з асабістага дзяцінства.*

*Сягоньня на Беларусі ўсталяваны прарасейскі акупацыйны рэжым, і ва ўсіх сфэрах чалавечага жыцьця пануе чужынская расейская мова. Часам даходзіць да абсурду (моладзь затрымлівалася за тое, што размаўляла па-беларуску). І гэта нягледзячы на тое, што беларуская мова зьўляецца дзяржаўнай. Асабліва шкодна, што роднай мовы не чуваць ні ў дзіцячых перадачах, ні ў дашкольных дзіцячых установах і вельмі мала ў школах. Вырасла цэлае пакаленьне моладзі, якая амаль не разумее роднай мовы. У такіх умовах шчырым беларусам жыць цяжка. Але чым мацней рэжымны ўціск, тым больш любай і роднай становіцца матчына мова, якая працягвае жыць у беларускіх асяродках і зносінах між сябрамі, у вершах, песьнях, на тэматычных вечарынах і іншых мерапрыемствах. А з гэтым жыве і наша Радзіма!*

*З павагай!*

*Зьміцер Якаўцаў,*
*Гомель*

## Калыханка

Сьпі, дзіцятка любае.
Час адпачываць.
Буду табе ціхенька
Песеньку сьпяваць.

Сонейка стамілася
І закрыла вочкі.
Саступае месца
Дзень сястрычцы-ночцы.

Сьцішылась наўкольле,
Зорачкі зіхцяць,
Птушкі насьпяваліся,
Хочуць памаўчаць.

Сьпі, дзіцятка любае,
Сьпі, адпачывай.
Хай табе прысьніцца
Гэтай ночкай рай.

## Пасьля навальніцы

Яшчэ грыміць паўнеба, бліскае маланка.
Але мінуў ужо ліўнёвы дождж.
І малых дзетак вырыхнула стайка
Па лужынах пабегаць басанож.

Па пояс галышом, ды порткі закасаныя,
І вочкі поўныя запалу, весялосьці.
- Хутчэй! Хутчэй! Па «морах», «акіянах»!
Іх на шляху занадта разьлілося.

І пырскі ўзьнесьліся ў гару суцэльнай сьценкай!
Па-за ўжо «Касьпій», мелкі ды шырокі,
І раптам, ух! – па самыя каленкі
Уляцелі у «Ціхі», цёмны і глыбокі…

Ад шумнай валтузьні, ад промняў сонца яркіх
Зноў вёска стала поўная жыцьцём,
І мова матчына ад гэтай жвавай стайкі
Журчэла цёплым, звонкім ручайком.

# Талака ў Курапатах

25 траўня ва ўрочышчы Курапаты пачалася шматдзённая талака. Мэта — прыбраць сьмецьце, хмызьняк і сухое гальлё, расчысьціць сьцежкі паміж магіламі.

На талаку сабраліся блізу трох дзясяткаў чалавек, сярод іх шмат моладзі.

Удзельнікі групы “Абаронім Курапаты”, якая арганізоўвае талаку, падзяліліся на дзьве “каманды” — адна застаецца непасрэдна ва ўрочышчы «Курапаты», другая ідзе прыбіраць на тэрыторыі, прылеглай да «Бульбаш холу».

Актывісты групы «Абаронім Курапаты» плянуюць прыходзіць сюды кожны тыдзень.

Сьвятар праваслаўнай аўтакефальнай царквы а. Леанід Акаловіч прапанаваў насыпаць ва ўрочышчы курган:

«Трэба скарыстаць зямлю і пясок, якія прывезеныя на будоўлю «Бульбаш-холу», і насыпаць курган, на якім усталяваць крыж. Трэба, каб курган рос, каб кожны, у каго сваякі былі закатаваныя, прывёз туды жменю зямлі са сваіх родных мясьцінаў. Таксама варта стварыць музэй пакутнікаў курапацкіх і памінальную капліцу. І трэці момант, які неабходны, – гэта крыжы па другі бок кальцавой дарогі, дзе таксама забівалі людзей».



# Wall Street Journal: Беларусы сьмяюцца з Лукашэнкі









Амэрыканскае выданьне распавяло пра тое, як беларусы высьмейваюць дыктатара. У артыкуле пад загалоўкам «Беларусы змагаюцца з рэпрэсіямі з дапамогай коміксаў» The Wall Street Journal піша аб карыкатурах на беларускага правадыра, якія распаўсюджваюцца ў Інтэрнэце. У іх высьмейваюцца розныя бакі ўнутранай і замежнай палітыкі дыктатара. Аўтарам карыкатур зьяўляецца арганізацыя «Беларусы ў выгнаньні».

«Карыкатуры, якія падкрэсьліваюць розныя бакі дыктатарскага праўленьня Лукашэнкі, зьяўляюцца рэгулярна. Яны прысьвечаны гандлю зброяй і адмываньню грошай для Сірыі ды Ірана, зьбіцьцю пратэстоўцаў і спробам абыйсьці эўрапейскія санкцыі», - піша выданьне.

Апошнія карыкатуры прысьвечаны эўрапейскім фінансавым інстытутам, якія падазраваліся ў супрацоўніцтве зь беларускім рэжымам, стварэньню ўладамі фальшывых праваабарончых арганізацый, а таксама лабістам дыктатара ў заходніх краінах.

# Беларуска-японскае вясельле на Гаваях





Гавайскія астравы ўжо даўно асвоеныя беларусамі, яшчэ з тых часоў, калі старшынём Сэната там быў абраны беларус Мікола Судзілоўскі. Таму не падаліся яны зусім чужым краем для сяброўкі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Касі Бяспалавай, якая нядаўна пераехала туды са сваім жаніхом, бо ён атрымаў працу ў мясцовым унівэрсытэце.

Уладкаваўшыся на новым месцы, маладыя людзі вырашылі там пабрацца шлюбам. Рыхтаваліся да гэтай урачыстасьці доўга і ўважліва. Маладыя хацелі, каб вясельле было ў абодвух традыцыях – беларускай і японскай. Нарачоны Касі нарадзіўся ў Японіі, але малым з бацькамі ад'ехаў у Эўропу і вырастаў ужо ў эўрапейскай культуры, так што для яго эўрапейскія традыцыі знаёмыя. Кася, вядома, да гэтага знаёмства зусім не была абазнаная ў японскай культуры, але хутка ўспрыняла ўсю прыгажосьць звычаяў краіны Узыходзячага сонца і зусім камфортна пачувала сябе ў японскім кімано.

Двое сяброў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня з гэтай прыемнай нагоды паляцелі на Гаваі, каб павіншаваць маладых і пажадаць ім ад БАЗА доўгага і шчасьлівага сумеснага жыцьця.

Ад рэдакцыі нашай газэты, якую Кася атрымлівае і чытае, мы таксама шлем маладым свае сардэчныя віншаваньні і найлепшыя пажаданьні на будучыню, найперш, каб і сваіх будучых дзетак узгадоўвалі ў абедзвюх культурах.

# Каляндар памятных датаў на чэрвень 2013году

**1 чэрвеня** – Міжнародны дзень абароны дзяцей

**5 чэрвеня** – Міжнародны дзень аховы навакольнага асяроддзя

**5 чэрвеня** - 75 гадоў таму, у 1938 годзе, у Сыбіры ў савецкім канцлягеры расстраляны Юрка Лістапад, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстаньня

**7 чэрвеня** – 450 гадоў таму, у 1563 годзе, Жыгімонт II Аўгуст выдаў Віленскі прывілей, які параўняў у правох праваслаўных і каталікоў у Вялікім Княстве Літоўскім

**8 чэрвеня** – 55 гадоў таму, у 1958 годзе, у Беластоку заснавана беларускае літаратурнае аб'яднаньне "Белавежа"

**13 чэрвеня** – 70 гадоў таму, у 1943 годзе, забіты Юльян Саковіч, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, сябар ЦК Беларускай Незалежніцкай Партыі

**14 чэрвеня** – 110 гадоў таму, у 1903 годзе, памёр Ян Карловіч, лінгвіст, этнограф, фалькларыст, музыказнавец

**17 чэрвеня** - 220 гадоў таму, у 1793 годзе, у Гародні пачаўся апошні сейм Рэчы Паспалітай, які зацьвердзіў падзел Рэчы Паспалітай

**17 чэрвеня** – 75 гадоў таму, у 1938 годзе, у Омску расстраляны Аркадзь Смоліч, дзеяч БНР, навуковец, географ, картограф

**17 чэрвеня** – 55 гадоў таму, у 1958 годзе, памёр у Рызе Уладзімір Пігулеўскі, грамадзкі дзеяч, пісьменьнік

**20 чэрвеня** – 65 гадоў таму, у 1948 годзе, у Вязынцы адкрыўся філіял Літаратурнага дома-музэя Янкі Купалы

**22 чэрвеня** – 130 гадоў таму, у 1883 годзе, нарадзіўся Аляксандр Цьвікевіч, палітычны дзеяч, гісторык, публіцыст

**22 чэрвеня** 1941 году - пачатак нямецкай акупацыі Беларусі

**22 чэрвеня** - 10 гадоў таму, у 2003 годзе, у шпіталі ў Бараўлянах памёр Васіль Быкаў, народны пісьменьнік Беларусі

**25 чэрвеня** – 10 гадоў таму, у 2003 годзе, Савет міністраў прыняў пастанову пра ліквідацыю Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа

**29 чэрвеня** – 100 гадоў таму, у 1913 годзе, нарадзіўся Чэслаў Будзька, грамадзкі дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**29 чэрвеня** – 55 гадоў таму, у 1958 годзе, у Вільні памёр Фабіян Ярэміч, грамадзка – культурны дзеяч

*Арцём Гусак*

## Дзе мая мова?

Калі кахаеш родныя абшары,
Дзе песьціць сонейка зямлю,
На роднай мове хочацца прапець: "Кахаю",
На роднай мове я кажу: "Люблю!"

Мне мовы дзьве даны зь дзяцінства,
І гэтак ёсьць, што ні кажы.
У горадзе жывуць амаль адныя жители,
У вёсцы, у асноўным, жыхары.

Так што рабіць мне з гэтай праўдай?
Ці буду ворагам, дзе маю карані?
Калі адным казаць я буду шчыра "дзякуй",
Другім - "спасибо", а замест "прабач" - "прости".

Дык адракуся ад імперскай мовы,
Ці гэта зможа мне дапамагчы,
Сыном быць лепшым для сваёй маці,
Сыном быць лепшым да сваёй зямлі?

Калі асудзіць хто мяне за здрадства,
Захоча ў сэрцы нешта затаіць -
Я не пакрыўджуся, ня трэба!
Калі Радзіму любіш, то і Бог даруе!
Калі Радзіму любіш, то и Бог простит!

JUNE 17 2013

6:30 PM - 8:30 PM

BUSBOYS AND POETS
2021 14TH ST.
NW (14TH AND V)
WASHINGTON, DC

# BELARUSIAN DREAM

A FILM BY KATERINA KIBALCHICH

FILM FOLLOWED BY Q&A WITH EXPERTS ON THE HUMAN RIGHTS SITUATION IN BELARUS

ADMISSION: FREE CO-SPONSORS: BELARUSAN-AMERICAN ASSOCIATION, FREEDOM HOUSE, AND JBANC (JOINT BALTIC AMERICAN NATIONAL COMMITTEE)

FREEDOM HOUSE BAZA JBANC

## Віншаваньні

*У вясновыя дні адзначыў свой дзень народзінаў вядомы дзеяч беларускай дыяспары ў ЗША сп. Міхась Белямук. Шмат гадоў ён актыўна працаваў у беларускай справе, быў дзейсным сябрам беларускіх грамадзкіх арганізацыяў, многа сваёй працы ён уклаў у арганізацыю царкоўна-рэлігійнага жыцьця беларускай супольнасьці ў Амэрыцы.*

*На жаль, зараз па стану здароўя сп. Міхась ня мае магчымасьці актыўна працаваць на грамадзкай ніве, але ён працягвае ўважліва сачыць за падзеямі на Бацькаўшчыне і жыцьцём беларускай эміграцыі ў Амэрыцы і іншых краінах.*

*Сардэчна жадаем сп. Міхасю, шматгадоваму чытачу і ахвярадаўцу нашай газэты, паляпшэньня здароўя, добрага настрою і доўгіх гадоў жыцьця!*

*Рэдакцыя*



*Згуртаваньне беларусаў Канады шчыра віншуе* ***шаноўную спадарыню Марыю Ганько*** *з днём народзінаў!*

***Дарагая Марыя!***

*Зычым Вам здароўя, здароўя і яшчэ раз здароўя!*

*Вялікі Вам дзякуй за тое, што Вы рабілі і робіце дзеля людзей і Беларусі!*

*Мы Вас вельмі любім і жадаем, каб яшчэ шмат гадоў у нас была магчымасьць павіншаваць Вас з днём народзінаў!*

***Жыве Беларусь!***



**Таронта, 25 красавіка 2013 г.**
**Галоўная Ўправа Згуртаваньня беларусаў Канады**

## Паведамленьне

**Галоўная ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) паведамляе, што чарговы справаздачна-выбарчы Кангрэс БАЗА адбудзецца 8 чэрвеня 2013 году ў грамадзкай залі будынка Сабора Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлянтык Авэню 401 у Брукліне.**

**Пачатак ў 12:00**

**Удзел у Кангрэсе возьмуць абраныя дэлегаты на сходах структурных арганізацыяў БАЗА.**

## На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

Марыя Азарка ў памяць ейнага мужа Янкі Азаркі - $ 50
Алена Амбросава - $ 50
Канстанцін Вайцяхоўскі - $ 50
Жэня Дубяга - $ 40
Ян Барысевіч - $ 80
Сільвестр Будкевіч - $ 50
Ніна і Сымон Дудар - $ 50
Нікалас Махнач - $ 50
Парафія Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд Парку - $ 100
Маргарыта Пярова - $ 20 замест кветак на магілу Валянціна Грыцкевіча
Алеся Якушава - $ 50

**Вялікі дзякуй усім ахвярадаўцам!**


**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
***Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне***

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
***Belarusan American Ass'n, Inc.***

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Алена Высоцкая – адказная за кампутарную вёрстку
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць погляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
***Hazeta Bielarus***
***166-34 Gothic Drive***
***Jamaica, NY 11432***
***USA***

**Грашовыя чэкі выпісываць на імя :** ***BIELARUS newspaper***
дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.
**Электронны адрас (email):**
**bielarus@bazahq.org**
*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*